# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 7 (78) Ліпень 2013 г.


# Прысуд Андрэю Гайдукову: 1,5 года калёніі агульнага рэжыму

**За замах на ўстанаўленьне кантакту з супрацоўнікам замежнай спэцслужбы без прыкметаў здрады Радзіме рашэньнем Віцебскага абласнога суду Андрэй Гайдукоў прысуджаны да аднаго з паловай гадоў калёніі агульнага рэжыму. Асудзілі яго паводле артыкулу 356[1] Крымінальнага кодэксу (устанаўленьне супрацоўніцтва са спэцыяльнай службай, ворганам бясьпекі або разьведвальным ворганам замежнай дзяржавы).** Як пракамэнтавалі прадстаўнікі Праваабарончага цэнтру "Вясна", гэты артыкул быў уключаны ў крымінальны кодэкс у лістападзе пазамінулага году і носіць вельмі расплывісты характар.


Андрэй Гайдукоў

Суд быў закрытым. На апошнім паседжаньні 1 ліпеня, аб 11:00, у залі прысутнічалі маці і сястра падсуднага, прадстаўнікі ЭЗ і амбасады Вялікай Брытаніі. Сяброў жа, людзей, якія прыйшлі падтрымаць Андрэя, а таксама прадстаўнікоў праваабарончых арганізацыяў і журналістаў на працэс не дапусьцілі. Міліцыянты спасылаліся на тое, што ў памяшканьні няма вольных месцаў. Паводле словаў праваабаронцы Паўла Левінава, для пасяджэньня ў новым будынку абласнога суду была абраная адна зь невялікіх заляў, хаця пры жаданьні аб'явіць прысуд можна было б у іншым памяшканьні, якое зьмясьціла б усіх ахвотных.

Былі забароненыя фота- і відэаздымкі. Праўда, выключэньнем з правілаў стала, як заўсёды, дзяржаўная тэлевізія, якой даецца канкурэнтны прыярытэт. Ужо празь некалькі хвілін пасьля пачатку паседжаньня зь дзьвярэй суду выйшлі каля двух дзясяткаў страката апранутых жанчын і коратка стрыжаных маладых людзей і, звыкла выраўноўваючыся на ходніках, пад гіранічныя апладысмэнты прысутных схаваліся за паваротам вуліцы. Стала зразумела, што суд скончыўся і прысуд вынесены.

Пакараньне не сталася занадта нечаканым: у прынцыпе, было зразумела, што судзьдзя Галіна Ўрбановіч павінна трохі зьменшыць тэрмін, які папрасіў прадстаўнік афіцыйнага абвінавачаньня, але і не выпусьціць адразу ж падсуднага на волю, на што вельмі спадзявалася маці Андрэя. «Прысуд занадта жорсткі, бо ніякага шпіянажу не было», - сказала Вольга Гайдукова. Цяпер, замест таго каб вярнуцца дадому разам з сынам, ёй застаецца чакаць абяцанага ў ліпені спатканьня.

Адвакат Гайдукова Вадзім Мушынскі таксама лічыць прысуд неапраўданым і зьбіраецца пісаць на яго скаргу. На пытаньне аб тым, што калі скарга не пройдзе, то што будзе далей, ён сказаў: «Час пакажа. Калі скарга будзе адхіленая, дык, вядома, ён будзе адбываць пакараньне. Але, улічваючы, што ён ужо амаль 8 месяцаў пад вартай, то існуе магчымасьць замены пакараньня - тэрміны падыходзяць. Магчыма і датэрміновае вызваленьне, калі ня будзе парушэньняў рэжыму». Пагутарыць з падабаронным пасьля абвяшчэньня прысуду адвакату не ўдалося, бо канвой сьпяшаўся.

Каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі хрысьціянскіх дэмакратаў на Віцебшчыне Таццяна Севярынец, якой удалося трапіць на абвяшчэньне прысуду, адзначыла, што Андрэй трымаўся вельмі спакойна, з годнасьцю, інтэлігентна.

## Усе акцыі віцебскай апазыцыі, заплянаваныя на 27 ліпеня, забароненыя

Улады забаранілі ўсе масавыя мерапрыемствы апазыцыі, якія мусілі адбыцца ў Віцебску 27 ліпеня, у гадавіну прыняцьця Дэклярацыі пра незалежнасьць Беларусі. Прычына забароны - заяўнікі не выканалі рашэньня гарвыканкаму № 881 “Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску".

Заяўку на правядзеньне пікету 27 ліпеня ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну падаваў сябра КХП-БНФ **Ян Дзяржаўцаў**. Анялягічная заяўка яшчэ на адзін пікет была пададзеная актывістамі **Хрыстафорам Жаляпавым** і **Аляксеем Гаўруцікавым** у адміністрацыю Першамайскага раёну. А абласны кіраўнік партыі БНФ **Леанід Аўтухоў** прасіў адміністрацыю Чыгуначнага раёна дазволіць правядзеньне мітынгу. Усе акцыі меркавалася ладзіць у месцах, адмыслова выдзеленых уладамі пад масавыя мерапрыемствы.

## У ВІЦЕБСКУ ЗАБАРАНІЛІ ПІКЕТЫ Ў ПАДТРЫМКУ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА




Заяўкі былі пададзеныя на 4 пікеты, якія віцебскія праваабаронцы меркавалі зладзіць 4 жніўня. У гэты дзень споўніцца два гады, як кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі знаходзіцца за кратамі. Аднак мясцовыя ўлады не далі дазволу на пікеты салідарнасьці зь Бяляцкім заяўнікам Паўлу Левінаву і Леаніду Сьвецiку. Абодва праваабаронцы атрымалі адмовы на падставе таго, што яны не заключылі дамоваў на абслугоўваньне акцыяў, як гэтага патрабуе рашэньне гарвыканкаму № 881.

## Жыхары Віцебску патрабуюць зьмяніць рашэньне гарвыканкаму № 881

Жыхары Віцебску зьвярнуліся ў аблвыканкам з заявай аб зьмяненьні парадку прыняцьця рашэньняў аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў у горадзе. Калектыўны ліст падпісалі 40 чалавек. Зварот вымушаны, бо цягам некалькі апошніх гадоў віцебскія ўлады не далі ніводнага дазволу на правядзеньне ніводнага мітынгу альбо пікету.

Пры гэтым, калі было немагчыма адмовіць адразу, не парушаючы дзеючыя прававыя акты, дык на шляху заяўнікаў уставалі УУС Віцебскага аблвыканкаму і раённыя АУС, УАЗ “Віцебская гарадзкая цэнтральная паліклініка» або УКПП «Віцебская гарадзкая жыльлёва-камунальная гаспадарка», дамовы зь якімі на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў абласныя і гарадзкія ўлады зрабілі абавязковымі.

Усе гэтыя службы адмаўляліся заключаць гэткія дамовы, спасылаючыся на адсутнасьць адпаведнага дазволу, а дазвол не даваўся без дамоваў. У выніку, заяўнікі траплялі ў адмыслова прыдуманае бюракратычнае замкнёнае кола, разарваць якое немагчыма. Тым самым парушаліся і далей парушаюцца канстытуцыйныя правы грамадзян, міжнародныя забавязаньні Беларусі і шматлікія прававыя акты краіны.

# Суд адмовіў прафсаюзу РЭП у задавальненьні пазову супраць «Белдзяржстраху»



Валер Місьнікаў

**Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці ў інтарэсах сябра прафсаюзу юрыста Валера Місьнікава і яго дачкі Тацьцяны Місьнікавай зьвярнуўся ў суд з грамадзянскім пазовам супраць «Белдзяржстраху». Аднак судзьдзя Чыгуначнага райсуду Віцебску Сьвятлана Варатынская вырашыла справу не на карысьць пазоўніка: згодна зь яе пастановай згаданае дзяржаўнае страхавое прадпрыемства можа не выконваць свае забавязаньні па доўгатэрміновым страхаваньні 1991 году.**

У 1991 годзе Валер Місьнікаў аформіў на сваю дачку папулярнае тады «страхаваньне да шлюбу». Згодна з умовамі страхаваньня яго дачцэ павінны былі выплаціць пасьля яе вясельля альбо па дасягненьні ёй нейкага ўзросту немалыя грошы. Па дасягненьні якога менавіта ўзросту — 21 або 25 гадоў — з дамовы не зусім зразумела, але пра гэта крыху ніжэй. Страхавая сума складала 1000 старых, яшчэ савецкіх рублёў. На гэтую тысячу пасьля сканчэньня тэрміну страхаваньня таксама павінны былі налічацца працэнты — па 0,25% штомесяц.

Спадар Місьнікаў цягам пэўнага часу рэгулярна плаціў грошы страхаўшчыкам і сваю частку забавязаньняў па дамове страхаваньня выканаў у поўным аб'ёме. А ў 2004 годзе тэрмін страхаваньня скончыўся — Тацьцяне Місьнікавай споўнілася 18 гадоў. У 2006 годзе яе бацька зьвярнуўся ў «Белдзяржстрах» з запытам наконт лёсу грошай, якія, як ён спадзяваўся, неўзабаве атрымае ягоная дачка.

У адказ на зварот супрацоўнік «Белдзяржстраху» паведаміў, што яго прадпрыемства не пярэчыць супраць выплаты належнай сумы, але сьпярша павінна быць прынятае нейкае рашэньне наконт выплаты доўгу. «Пры прыняцьці станоўчага рашэньня пра тэрміны правядзеньня кампэнсацыі па дамове доўгатэрміновага страхаваньня Вы будзеце праінфармаваныя дадаткова», — абяцалі страхаўшчыкі ў сваім адказе. «Чакайце», — гэтак можна перафразаваць адказ, атрыманы Валерам Місьнікавым. І ён чакаў...

У 2012 годзе спадар Місьнікаў ізноў зьвярнуўся ў «Белдзяржстрах». Ізноў атрымаў аналягічны адказ. Сёлета ўжо рэспубліканская рада прафсаюзу РЭП зьвярнулася ў цэнтральны офіс «Белдзяржстраху». Адказ: У выніку дэнамінацыяў «Белдзяржстрах» ня змог зрабіць выплаты сумаў страхавога забесьпячэньня ў памерах, адпаведных цяперашняй эканамічнай сытуацыі. Беручы пад увагу актуальнасьць праблемы аб кампэнсацыі матэрыяльных страт грамадзян, ворганамі дзяржаўнага кіраваньня Рэспублікі Беларусь разглядаецца пытаньне, зьвязанае з магчымасьцю кампэнсацыі сумаў выплачаных грамадзянамі страхавых узносаў. Аб прыняцьці ворганамі дзяржаўнага кіраваньня канчатковага рашэньня аб правядзеньні кампэнсацыі ўзносаў, выплачаных страхавальнікамі і выдаткаваньні «Белдзяржстраху» неабходнага аб'ёму грашовых сродкаў зь дзяржаўнага бюджэту і пачатку кампэнсацыі выплат будзе паведамлена ў СМІ.

Валер Місьнікаў: **«У 2006 годзе мне даслалі паперу, што я мушу чакаць. Я законапаслухмяна чакаў моманту, калі будзе паведамленьне аб дзеяньнях "Белдзяржстраху"... У 2006-м зьвярнуўся, у 2012-м зьвярнуўся, у 2013-м... І кожнага разу мне кажуць: "Чакайце". "Вы чакайце, урад прыме рашэньне"... Дык што, я павінен не паважаць нашага прэзыдэнта і прэм'ер-міністра? Яны ж прымуць некалі рашэньні?! Я законапаслухмяны, я сумленны грамадзянін — я чакаў»**.

Нарэшце чакаць надакучыла... Патрабаваньне выплаціць страхавую суму і працэнты на гэтую суму, якія павінны налічацца згодна з умовамі страхаваньня, было накіраванае ў суд.

На судзе адказчыка прадстаўляў вядучы юрысконсульт філіялу «Белдзяржстраху» па Віцебскай вобласьці Уладзімер Журко. Паводле яго слоў, страхавы выпадак наступіў у 2007 годзе, калі Тацьцяне Місьнікавай споўніўся 21 год (у шлюб яна ўступіла пазьней, у 2012 г.), і калі б яна тады зьвярнулася па выплату, то атрымала б яе — у памеры... 18 капеек (зь іх 11 капеек — страхавая сума, 7 — кампэнсацыйная выплата). А на сёньняшні дзень тэрмін пазоўнай даўнасьці, маўляў, скончыўся, — гэтак выказаў у судзе сваю пазыцыю прадстаўнік адказчыка.

Тэрмін пазоўнай даўнасьці складае 3 гады. Такім чынам, згодна зь меркаваньнем юрыста «Белдзяржстраху», па выплату трэба было зьвяртацца з 2007 па 2010 гады. А цяпер ужо быццам бы запозна.

Вось тут дарэчы будзе прыгадаць узрост, у якім, згодна з дамовай страхаваньня, наступае страхавы выпадак, калі застрахаваная асоба не ўступіла ў шлюб. На бланку дамовы, які мае на руках спадар Місьнікаў, стаіць лічба «25», але яна закрэсьленая, і замест яе асадкай напісана «21» безь якога-небудзь подпісу побач, што выпраўленьне зьяўляецца часткай дамовы. Тут жа надрукаваныя ўмовы страхаваньня — і там таксама «25».

Іншай дамовы зь іншымі тэрмінамі, пад якой стаяў бы подпіс Місьнікава, суду прад'яўлена не было. Пра тое, што зьмяніліся ўмовы, яму ніяк не паведамлялі. Такім чынам, нават калі прыняць аргумэнтацыю боку адказчыка, выходзіць, што страхавы выпадак наступіў не ў 2007, а ў 2011 годзе (тады Тацьцяне Місьнікавай споўнілася 25 гадоў), і ні пра які тэрмін даўнасьці ня можа весьціся гаворкі.

**«Калі гэтыя 18 капеек, а яны ўжо прызнаныя, маюць месца, значыць імі карыстаюцца аж да сёньня. А калі імі карыстаюцца, я прашу тыя страты, якія панёс я і панесла Місьнікава Тацьцяна Валер'еўна кампэнсаваць у поўным аб'ёме. Якім чынам? Праіндэксаваць іх з улікам інфляцыі»**, — заявіў Валер Місьнікаў сваё патрабаваньне ў судзе.

На думку Валера Місьнікава, «Белдзяржстрах» мае дастаткова грошай, каб выплаціць неабходную суму. У судзе ён працытаваў словы кіраўніка прадпрыемства Сяргея Якубіцкага, апублікаваныя часопісам «Фінансы, улік і аўдыт», № 12 за 2012 г., які сьцьвярджае, што аб'ём страхавых рэзэрваў, сфармаваных на 1 кастрычніка 2012 году, складае 2 400 млрд беларускіх рублёў.

Заслухаўшы бакі, судзьдзя Варатынская прыняла пастанову на карысьць «Белдзяржстраху». Яна адмовіла прафсаюзу РЭП у задавальненьні пазову, бо нібыта «мінуў тэрмін пазоўнай даўнасьці». **«Чаму ў Ганконгу няма такога крадзяжу? — задае рытарычнае пытаньне Валер Місьнікаў. — Чаму там суды справядлівыя, не карумпаваныя? А ў нас, у квітнеючай Рэспубліцы Беларусь, аказваецца, што нельга дамагчыся справядлівасьці і абароны парушаных маёмасных правоў».**

# Пятра Іванова пазбавілі права абскардзіць судовае рашэньне

**Пётар Іваноў** абскарджваў пастанову судзьдзі суду Першамайскага раёну Віцебску **Натальлі Караблінай** аб прыцягненьні яго да адміністрацыйнай адказнасьці.


Пётар Іваноў

Скарга была прынятая. Праз некаторы час Пётар Іваноў атрымаў паведамленьне пра дзень і час разгляду яго скаргі ў абласным судзе. Якое ж было яго зьдзіўленьне, калі, прыйшоўшы ў прызначаны дзень у суд, ён даведаўся, што яго скарга разглядацца ня будзе — ані ў гэты дзень, ані ў які-небудзь іншы.

Пятру Іванову патлумачылі, што ў яго скарзе нібыта не прыведзеныя довады пра нязгоду з прынятым рашэньнем, што перашкаджае разгляду яе па сутнасьці ў судзе другой інстанцыі. Справу абласны суд вярнуў у суд Першамайскага раёну Віцебску. Такім чынам, на думку Пятра Іванова, яго пазбавілі права абараніць сябе ў судзе. Новую скаргу ён скласьці ня можа, бо ўжо мінуў тэрмін абскарджаньня пастановы па справе аб адміністрацыйным правапарушэньні.

*Судзьдзя Карабліна пакарала Іванова паводле артыкулу 23.5 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях штрафам у памеры 5 мільёнаў рублёў нібыта за абразу супрацоўнікаў праваахоўных ворганаў. Падчас разбору справы ў судзе Першамайскага раёну ён таксама, па сутнасьці, быў пазбаўлены магчымасьці прававой абароны: асудзілі Пятра Іванова завочна, ён нават і ня ведаў, што яго судзяць, бо позва ў суд прыйшла яму на наступны дзень пасьля завяршэньня судовага працэсу.*

# Віцебскі абласны суд разгледзеў скаргу Антаніны Піванос

**Віцебская актывістка Антаніна Піванос працягвае змагацца за тое, каб дзяржаўныя органы Беларусі пачалі выконваць рашэньне Камітэту па правах чалавека ААН, прынятае ў адносінах да яе. Цяпер справу разглядаў абласны суд, куды яны накіравала касацыйную скаргу на пастанову суду Чыгуначнага раёну. Аднак пераканаць судзьдзяў абласнога суду не ўдалося: яны пакінулі рашэньне суду першай інстанцыю ў сіле.**

Нагадаем, у сакавіку 2008 году Антаніна Піванос была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасьці нібыта за парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня масавага мерапрыемства. Актывістка спрабавала абскардзіць спагнаньне, накладзенае тады на яе, прайшла ўсе судовыя інстанцыі — дайшла аж да Вярхоўнага суду Беларусі — і нідзе не змагла дамагчыся справядлівасьці.


Антаніна Піванос

Нарэшце Антаніна Піванос зьвярнулася ў КПЧ ААН, які разглядаў яе справу цягам некалькіх гадоў і ў 2012 годзе прызнаў, што ўлады Беларусі, прыцягнуўшы жанчыну да адказнасьці, парушыла яе правы. Згодна з рашэньнем КПЧ, Беларусь як краіна, якая падпісала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўны пратакол да пакту, абавязаная кампэнсаваць Антаніне Піванос шкоду, якую яна панесла ў выніку несправядлівага пакараньня ў 2008 годзе. Аднак ўлады рашэньне камітэту ААН праігнаравалі. Не абараніў актывістку і суд, у які яна зьвярнулася, каб змусіць дзяржаву выканаць згаданае рашэньне КПЧ.

Антаніна Піванос не зьбіраецца здавацца. Цалкам магчыма, што і зараз яна пройдзе ўсе колы судовай сыстэмы Беларусі, дамагаючыся таго, каб дзяржава выканала свае міжнародныя забавязаньні. Калі ў судох краіны зноў ня ўдасца знайсьці праўду, мабыць, яна зноў зьвернецца ў КПЧ ААН. Калі такое адбудзецца, гэта будзе беспрэцэдэнтны выпадак: здаецца, яшчэ ніхто ня скардзіўся ў камітэт па правах чалавека на тое, што нейкая краіна адмаўляецца выконваць рашэньні камітэту.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.